# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

18 кастрычніка 1996 г. пятніца, № 251 (23054)




## УСЕБЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СХОД АДКРЫВАЕЦЦА 19 КАСТРЫЧНІКА

19-20 кастрычніка 1996 года ў мінскім Палацы спорту адбудзецца першы Усебеларускі народны сход. Дэлегаты сходу абмяркуюць асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады і праект новай рэдакцыі Канстытуцыі (са змяненнямі і дапаўненнямі). З вялікім дакладам перад удзельнікамі выступіць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.

Беларускае тэлебачанне, пачынаючы з 16 гадзін 19 кастрычніка і з 10 гадзін 20 кастрычніка будзе весці прамую трансляцыю з народнага форуму.

**Аргкамітэт па падрыхтоўцы Усебеларускага народнага сходу.**

## «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Шаноўныя чытачы «Звязды»!**
**На ўсе вашы пытанні адкажа старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір ГАНЧАРЫК.**

Цяперашні эканамічны стан і шляхі выхаду з крызісу, нявыплата заробку і беспрацоўе, умовы працы і сацыяльная абарона, ахова здароўя і адпачынак, — вось далёка не поўнае кола пытанняў, на якія вам адкажа старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Іванавіч Ганчарык. «Прамая лінія» «Звязды» адбудзецца на наступным тыдні. Канкрэтную дату яе правядзення мы паведамім дадаткова. Тэлефоны «прамой лініі» — 232-38-21, 232-38-92.

Папярэднія званкі прымаюцца штодня па тэл. (8-017) 268-27-57.

*Дасылайце таксама пытанні па пошце. Нагадаем наш адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». Калі ласка, зрабіце паметку: «Для старшыні ФПБ».*

## «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Сучасны век немагчымы без разгалінаванай, шматграннай інфраструктуры зносінаў. Ці не найбольшы прыярытэт тут належыць сродкам электроннай сувязі, радыё, пошце. Іх праца мае дачыненне да ўсіх слаёў насельніцтва. Таму «Звязда» і праводзіць «прамую лінію» з міністрам сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Іванавічам Ганчарэнкам. Ён адкажа на ўсе вашы пытанні, паважаныя чытачы, звязаныя з падначаленай яму галіной. **Чакаем вашых званкоў 21 кастрычніка з 12 да 13 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51 або пісьмова.***

## БАРЫС ЕЛЬЦЫН ВЫРАШЫЎ, ШТО «ЛЕБЕДЗЬ, ШЧУПАК І РАК» АДЗІН ВОЗ ЦЯГНУЦЬ НЕ МОГУЦЬ

**Учора прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын падпісаў указы аб вызваленні ад займаемых пасад шэрага высокапастаўленых асоб.**

Не паспеў заціхнуць скандал з сенсацыйнымі заявамі вызваленага ад пасады генерала Каржакова, як выбухнуў новы, на гэты раз яшчэ больш моцны — прэзідэнцкім указам ад пасады сакратара расійскага Савета бяспекі вызвалены Аляксандр Лебедзь.

— Наступныя выбары прэзідэнта Расіі адбудуцца толькі ў 2000 годзе, а ўжо цяпер пачынаецца нейкая перадвыбарная гонка і «размяркоўванне партфеляў», — заявіў па тэлебачанні Барыс Ельцын. — Сёння, наадварот, трэба ўсім кансалідавацца, а атрымліваецца, што некаторыя, як тыя лебедзь, шчупак і рак цягнуць воз у розныя бакі. Прабачце за каламбур, але адзін з гэтых персанажаў і ёсць Аляксандр Іванавіч Лебедзь, які свае ўчынкі не хоча ўзгадняць з прэзідэнтам.

Між тым, учора ў сярэдзіне дня праз прэс-службу Савета бяспекі была распаўсюджана заява аб тым, што затрыманы некалькі супрацоўнікаў МУС, якія быццам бы сачылі за Аляксандрам Лебедзем і ў якіх знойдзены зброя і спецыяльная аўдыё- і відэаапаратура. Аляксандр Іванавіч паабяцаў аддаць затрыманых на «суд» замежных журналістаў і паслоў, аднак пасля чатырохгадзінных перамоў «мусаўцы» былі адпушчаны. Па іншых даных, гэта былі супрацоўнікі ўпраўлення спецаперацый МУС Расіі, якія выконвалі каля гасцініцы заданне, звязанае з арыштам вялікага склада зброі, які належаў чачэнцам.

Як бы там ні было, а генерал Лебедзь, якога недвухсэнсоўна западозрылі ў дзяржаўным перавароце, вызвалены ад сваёй пасады. Амаль адначасова з Аляксандрам Іванавічам склаў паўнамоцтвы пасля прэзідэнцкага ўказа і намеснік камандуючага ПДВ Расіі па рабоце з асабістым саставам генерал-маёр Уладзімір Казанцаў.

**Алесь СІВЫ.**

# ПРЭЗІДЭНТ ЗАДАВОЛЕНЫ ВЫНІКАМІ ВІЗІТУ Ў МАСКВУ

**16 кастрычніка ў Маскве адбылася прэс-канферэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі для расійскіх і замежных карэспандэнтаў. Яна была прысвечана вынікам перагавораў з кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі па праблемах двухбаковых адносінаў Беларусі і Расіі ў рамках створанага Супольніцтва, праблемам актывізацыі і каардынацыі інтэграцыйных працэсаў.**

Адкрываючы сустрэчу з журналістамі, А. Лукашэнка сказаў: «Мы абмеркавалі комплекс праблем, што датычацца Беларусі і Расіі. Было шмат праблем, якія патрабавалі абмеркавання з прэзідэнтам Б. Ельцыным. У мяне былі таксама сустрэчы з прэм'ер-міністрам В. Чарнамырдзіным, з міністрам замежных спраў Я. Прымаковым, міністрам абароны генералам Радзівонавым. Самы галоўны вынік звязаны з тым, што адносіны Расіі і Беларусі ў рамках створанага намі Супольніцтва ў апошні час пачалі затухаць. І, натуральна, сёння патрэбны не толькі імпульс, а прасоўванне нашых адносінаў наперад. Таму мы дамовіліся з прэзідэнтам, што ў дадзены момант па прычыне абставінаў, якія склаліся, асноўны цяжар работы ў Вышэйшым Савеце Супольніцтва я павінен узяць на сябе.

Але я не буду хітрыць, таму што вы абавязкова спытаецеся, ці абмяркоўваліся ўнутрыпалітычныя праблемы і каардынацыя нашых адносінаў у знешняй палітыцы. Абмяркоўваліся. І гэты дыялог быў прадоўжаны ў час сустрэчы з Я. Прымаковым. Потым мы выйшлі на праблемы абароннага характару дзвюх дзяржаў. Спатрэбілася сустрэча з міністрам абароны.

Як я ўжо гаварыў, я вымушаны буду ўзяць на сябе частку работы расійскага прэзідэнта на бліжэйшы перыяд часу. Гэта першае. А па-другое, мы пры абмеркаванні ўнутрыпалітычных пытанняў не ўхіляліся ў нейкі адзін бок, скажам, толькі ў беларускія праблемы. Я пытаўся ў Ельцына пра расійскія праблемы, а ён пытаўся пра сітуацыю ў Беларусі. І я вельмі шчыра, вельмі шырока адказаў яму на ўсе пытанні, якія датычыліся ўнутрыпалітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. У рамках гэтых праблем мы абмеркавалі праблемы, узнікшыя са стварэннем фінансава-прамысловых груп, і перш за ўсё ў галіне нафтаперапрацоўкі. У гэтай сувязі я звярнуўся да прэзідэнта РФ аб пастаўках для перапрацоўкі ўнутры Беларусі на двух нафтаперапрацоўчых заводах дадаткова невялікай колькасці нафты. Гэта прыкладна 300 тысяч тон штомесячна. Але не толькі для патрэб Беларусі, а для ўсяго заходняга рынку ўсёй тэрыторыі Беларусі і Расіі.

Мы таксама абмеркавалі шэраг ваенных пытанняў, якія ляжаць у плоскасці Дагавора аб калектыўнай бяспецы. Але толькі чыста схематычным чынам, паколькі мы ўжо не раз закраналі гэтыя пытанні. А на сустрэчы з міністрам абароны мы канкрэтызуем размову...

Усе гэтыя перагаворы праходзілі ў прысутнасці памочнікаў. А другая частка перагавораў была сам-насам. Яна працягвалася прыкладна дваццаць хвілін — як і першая частка. У нас вельмі і вельмі добрыя адносіны з прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі. І мы пацвердзілі гэта яшчэ раз, і я зразумеў, што адносіны Ельцына да мяне, беларускага прэзідэнта, абсалютна не змяніліся. Мы абмеркавалі шэраг асабістых пытанняў, пра якія я сёння не хацеў бы гаварыць, як не хацеў бы гаварыць і пра шэраг канфідэнцыяльных пытанняў, абмеркаваных сёння. На мой погляд, я праінфармаваў вас усёабдымна па ўсіх перагаворах, якія адбыліся з расійскім прэзідэнтам.

Акрамя таго, у нас адбылася сустрэча з патрыярхам Алексіем. Яна працягвалася 45 хвілін. Чаму я сустрэўся з патрыярхам? Я паабяцаў яму яшчэ раней, калі я толькі стаў прэзідэнтам, што я свайго патрыярха буду заўсёды інфармаваць аб тым, што адбываецца ў Беларусі, і пра нашы ўзаемаадносіны з Расіяй. Як старшыня Супольніцтва я сумленна выконваю свае абяцанні. Я праінфармаваў патрыярха аб выкананні нашых сумесных з ім ініцыятыў на тэрыторыі Беларусі. Я маю на ўвазе будаўніцтва вялікага храма ў памяць пра нявінна забітых і пацярпеўшых ад рэпрэсій, што было характэрна для нашай гісторыі. У ходзе гэтай размовы я праінфармаваў патрыярха пра сустрэчу з прэзідэнтам Ельцыным, перадаў яму асабістыя пажаданні добрага здароўя ад расійскага прэзідэнта. Ён мяне папрасіў гэта зрабіць.

Сустрэча з Прымаковым па сутнасці заключалася ў тым, што я падрабязным чынам праінфармаваў яго пра мае ініцыятывы і пра ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Беларусі, паколькі ён пастаянна цікавіцца гэтым пытаннем і пастаянна просіць мяне інфармаваць па падзеях у Беларусі. Ён вельмі перажывае за тое, што там адбываецца, хоць гэта ён успрымае выключна са сродкаў масавай інфармацыі, перш за ўсё расійскіх тэлевізійных агенцтваў. Паколькі нашы журналісты праз расійскае тэлебачанне не заўсёды дакладна інфармуюць насельніцтва Расіі аб сітуацыі ў Беларусі, я вымушаны быў інфармаваць яго аб тым, што адбываецца ў Беларусі, у гэтай брацкай рэспубліцы...»

Журналісты задалі добры тузін пытанняў беларускаму Прэзідэнту, якія не былі звязаны з яго маскоўскім рабочым візітам. Як адказваў на іх А. Лукашэнка? Вось некаторыя фрагменты яго паўгадзінных адказаў.

**ПРА СІТУАЦЫЮ Ў РЭСПУБЛІЦЫ**

«Я ўпершыню за ўсё сваё прэзідэнцкае жыццё праводжу прэс-канферэнцыю ў сталіцы братняй дзяржавы. І прычына гэтага ў тым, што расійскія журналісты, як гэта ні дзіўна, больш дэзінфармаваны аб сітуацыі ў Беларусі, чым насельніцтва, асабліва Масквы. Чаму? Таму што вы атрымліваеце інфармацыю з рук нашых журналістаў, на жаль, апазіцыйна настроеных да Прэзідэнта Беларусі. А ўнутрыпалітычная сітуацыя не такая, як яна бачыцца з Масквы. Чаму я так кажу? Калі я чытаю вашу прэсу і гляджу тэлебачанне, дык знаходжу, што вы параўноўваеце нашу сітуацыю з кастрычнікам 93 года ў вас. Ну гэта проста смешна для чалавека, які жыве ў Беларусі. Падобнага ў прынцыпе быць не можа. Тым больш таго, што адбылося ў Белым доме. Тым больш, што перад вамі сядзіць чалавек, які тады, будучы членам парламента, першы ў Беларусі асудзіў тое, што тут у вас адбывалася. Я чалавек міралюбівы, я па свайму характару не дазволю, каб падобнае адбылося ў нас. Я раблю ўсё, каб у нас быў мір і спакой».

**ПРА КАНСТЫТУЦЫЙНУЮ РЭФОРМУ**

«Праўда, ёсць пэўнае тармажэнне ў руху наперад у галіне эканомікі і палітыкі. Лічу не толькі я, што асноўным тормазам з'яўляецца цяперашняя Канстытуцыя — Асноўны закон. Паколькі Канстытуцыя прымалася Вярхоўным Саветам у складанай палітычнай сітуацыі, яна з'явілася быццам бы кампрамісам у некаторым родзе. Але нельга рабіць кампрамісы там, дзе яны быць не могуць. Але менавіта на кампрамісах пабудавана наша Канстытуцыя, яна звязвае па руках і нагах усю структуру ўлады: і заканадаўчую, і судовую, і выканаўчую. І калі паўстала пытанне аб больш дынамічным руху наперад, мы ў прынцыпе спыніліся. І не ведаем, як ісці наперад... Ці прэзідэнт павінен узяць на сябе гэтыя ініцыятывы і рухацца наперад, ці проста спыніць увесь рух. А мы ж пайшлі на саюз з Расіяй. Сінхранізацыя рэформаў проста непазбежная. Вы гэта цудоўна разумееце. Расія рэфарміруецца. А ў нас у парламенце камуністы гавораць так: ні ў якім разе ніякай прыватызацыі, ніякай прыватнай уласнасці на зямлю, давай камунізм. З імі і аграрыі. Так, відаць, і ў расійскай Думе. Другая частка — нацыянал-радыкалы. Яны гавораць: давайце заўтра ўсё адразу прыватызуем. Прыватную ўласнасць на зямлю давай адразу заўтра, ні ў якім разе цягнуць нельга. І атрымалася так, што парламент, не разабраўшыся ў сабе, пачаў разрываць грамадства. Выйсце я бачу не праз рэвалюцыю, хопіць — мы ўжо так наеліся гэтых рэвалюцый. Будзем ісці наперад толькі праз Закон! Таму паўстала неабходнасць унясення дапаўненняў і змяненняў у Канстытуцыю рэспублікі...»

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны карэспандэнт «Звязды».**
г. Масква.

❑❑❑

Адказваючы на пытанне карэспандэнта БЕЛТА, што даў візіт у Маскву Аляксандру Лукашэнку як Старшыні Вышэйшага Савета Супольніцтва Расіі і Беларусі і як кіраўніку беларускай дзяржавы, Прэзідэнт, у прыватнасці, сказаў, што ў яго дабавілася работы, паколькі на перыяд свайго лячэння Барыс Ельцын прапанаваў яму больш актыўна заняцца праблематыкай Супольніцтва. Галоўны ж палітычны вынік — вырашэнне шэрага эканамічных праблем. Візіт у расійскую сталіцу, паводле слоў Прэзідэнта, не трэба разглядаць у адным кантэксце з палітычнымі падзеямі, што адбываюцца ў Беларусі. «Калі вы думаеце, што я шукаў падтрымку напярэдадні рэспубліканскага рэферэндуму, то памыляецеся, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — На фоне палітычных падзей у Беларусі і Расіі, якія, на жаль, абысці немагчыма, мы абмяркоўвалі чыста эканамічныя праблемы. Мяне перш за ўсё цікавяць жыццё грамадзян і дабрабыт нашай дзяржавы».

❑❑❑

Гаворачы аб дэмаршы паслоў, які меў месца 14 кастрычніка, Аляксандр Лукашэнка сказаў, што лічыць пэўную дзейнасць дыпламатычных прадстаўніцтваў у суверэннай беларускай дзяржаве несумяшчальнай з іх статусам.

Адказваючы на пытанне аб магчымасці прыпынення вываду ядзернай зброі з беларускай тэрыторыі ў выпадку размяшчэння ля яе граніц натаўскіх узбраенняў, Прэзідэнт заявіў, што Беларусь не зацікаўлена ў ядзерным шантажы сусветнага супольніцтва і што ў бліжэйшы час усе ядзерныя ракеты будуць выведзены з яе тэрыторыі.

Прэзідэнт таксама растлумачыў некаторыя незразумелыя для журналістаў моманты, звязаныя з датай правядзення рэферэндуму і магчымымі рашэннямі Усебеларускага народнага сходу. «Мы не настолькі неразумныя, каб прымаць рашэнні, за якія можам быць бітыя. Сход не можа прыняць нейкіх канчатковых рашэнняў, ён на гэта не мае паўнамоцтваў. Аднак да думкі больш чым 6 тысяч дэлегатаў, выбраных дэмакратычным шляхам, прыслухаецца кожны палітык у нашай дзяржаве. Сход можа рэкамендаваць і Прэзідэнту, і парламенту выйсце з узнікшага становішча і знойдзе спосаб рэалізацыі тых ідэй, якія на ім будуць выпрацаваны. Я, як кіраўнік дзяржавы, прыму да выканання рашэнні гэтага сходу. Яны будуць рэалізоўвацца або праз нарматыўныя акты Прэзідэнта, або заканадаўчыя акты парламента», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**
**БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ШТО РОБЯЦЬ У ПАРЛАМЕНЦЕ ПРАДСТАЎНІКІ АБЛВЫКАНКОМАЎ?

**Вярхоўны Савет Беларусі, цалкам прысвяціўшы сваю работу 16 кастрычніка разгляду эканамічных пытанняў, учора зноў патануў у палітычных спрэчках. Тэндэнцыі да гэтага вызначыліся яшчэ ў традыцыйным раздзеле «Рознае».**

Падставай для выступлення Паўла Знаўца стаў факт затрымання ў Салігорску групы шахцёраў, якія збіраліся прыйсці ў Мінск для ўдзелу ў мяркуемым тут адбыцца мітынгу. Тое, што адбылося ў Салігорску, дэпутат кваліфікаваў як грубае парушэнне правоў і свабод грамадзян. Асаблівай увагі заслугоўвае прамова намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Юрыя Малумава, выступіць з якой ён абяцаў некалькі дзён таму. Такім чынам, сп. Малумаў зазначыў, што моцна занепакоены развіццём падзей у Беларусі ў бліжэйшы час. Гэтая трывога, паводле слоў дэпутата, выклікана тым, што выканаўчая і заканадаўчая ўлады так і не змаглі знайсці кампраміс адносна правядзення ў Беларусі рэферэндуму. Юрый Малумаў нават паспрабаваў даць прагноз падзей 19 кастрычніка. На яго думку, паўторыцца сітуацыя 26 красавіка. Зноў людзі збяруцца на мітынг на плошчу Якуба Коласа, куды заклікаюць распаўсюджваемыя ў Мінску ўлёткі, хаця гарадскія ўлады дазволілі правядзенне акцыі на плошчы Парыжскай Камуны. У гэтых умовах процістаянне паміж удзельнікамі мітынгу і праваахоўнымі органамі можа перарасці ў масавыя беспарадкі з усімі адсюль сумнымі наступствамі. Ён не выключыў, што ў міліцыі могуць здаць нервы, і спаслаўся пры гэтым на свой вопыт, калі яму аднойчы прыйшлося стаяць у ачапленні перад дэманстрацыяй. І хаця першапачаткова ў яго не было ніякага жадання прымяняць у адносінах да людзей сілу, праз пятнаццаць хвілін зносінаў з натоўпам «ужо хацелася біць, біць, біць...» Каб пазбегнуць такога развіцця падзей, Ю. Малумаў прапанаваў сваім калегам яшчэ раз вярнуцца да ініцыятывы Прэзідэнта і прызначыць рэферэндум на 7 лістапада. Выступаючы пасля Малумава, дэпутат Генадзь Цярэня зазначыў, што з'яўляўся аператыўным работнікам і быў сведкам падзей у 1988 і 90-х гадах. Ён абверг тое, нібыта супрацоўнікі міліцыі настроены агрэсіўна супраць дэманстрантаў. А выступленне Малумава ён расцаніў як ультыматум ці пагрозу не толькі дэпутатам Вярхоўнага Савета, але і простым людзям. «Нельга размаўляць мовай ультыматумаў і пагроз. Я хачу нагадаць усім прысутным тут, што існуюць нормы міжнароднага гуманітарнага права, міжнародныя канвенцыі, згодна з якімі зацвярджаецца права чалавека на жыццё, непрымяненне фізічнага насілля...» — сказаў Г. Цярэня. — Я хацеў бы папярэдзіць, што нельга народ правакаваць, нельга ў адносінах да яго прымяняць агрэсіўныя меры, выводзіць на вуліцы браніраваную тэхніку».

Вядома, гутарка, якая пачалася ў «Розным», не магла не пакласці адбітак на далейшы ход работы сесіі. На ранішнім пасяджэнні парламент паспеў разгледзець некалькі прапаноў адносна ратыфікацыі міжнародных пагадненняў, якія падпісала Беларусь. Аднак у самым пачатку дзённага пасяджэння трыбуну заняў дэпутат Бялой, які, выступаючы ад імя васьмідзесяці парламентарыяў, заклікаў Вярхоўны Савет уключыць у парадак дня сесіі і неадкладна разгледзець прапанову наконт пераносу даты рэферэндуму з 24 на 7 лістапада.

Такім чынам, усё дзённае пасяджэнне прайшло ў спрэчках вакол гэтай прапановы і ў выніку закончылася нічым. У прыхільнікаў ідэі пераносу дня плебісцыту быў толькі адзін аргумент: дату патрэбна зацвердзіць для таго, каб Прэзідэнт не парушыў закон, паколькі ён настойвае толькі на 7 лістапада. Затое ў праціўнікаў быў цэлы «букет» контраргументаў. Па-першае, змяніць дату рэферэндуму ўжо нельга без парушэнняў Канстытуцыі, паколькі арт. 74 прадугледжвае трыццацідзённы тэрмін прызначэння даты галасавання. Па-другое, па заключэнню Цэнтрвыбаркома, рэферэндум правесці ў гэты дзень у межах закона і распрацаванага графіка мерапрыемстваў ужо немагчыма фізічна. Па-трэцяе, адсутнічае аргументаванае тлумачэнне прапановы Прэзідэнта па даце, у той час як прапанова парламента аргументаваная. Па-чацвёртае, трэба пэўным чынам адмяняць вынікі папярэдняга галасавання праз кабіны. Па-пятае, на думку многіх дэпутатаў, у сітуацыі існуе адзіны шлях да кампрамісу: адкліканне абодвух праектаў Канстытуцыі і стварэнне пагаджальнай камісіі. Адным словам, калі адна частка дэпутатаў падтрымала Прэзідэнта, то другая пераканаўча адстойвала іншы пункт погляду. Гэта паказала, што ў Вярхоўным Савеце кожны дэпутат ужо канчаткова вызначыўся і ніякія аргументы і контраргументы не пахіснуць гэтай пазіцыі.

Акрамя таго, на сесіі адбыўся прыкры і трывожны інцыдэнт. Генадзь Карпенка паспрабаваў навесці ў зале парадак. Ён звярнуўся да старшынь некаторых аблвыканкомаў, у прыватнасці Мінскага і Брэсцкага, якія знаходзіліся ў зале і «кантралявалі ход галасавання» дэпутатаў з пэўных абласцей, з просьбай захоўваць прыстойнасць і не перашкаджаць рабоце дэпутатаў. А паколькі кіраўнікі аблвыканкомаў не адразу падпарадкаваліся заўвазе намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, то ў перапалку ўключыўся нават Сямён Шарэцкі, які заявіў, што не будзе працягваць работу сесіі, пакуль «назіральнікі» не пакінуць дэпутацкія сектары.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## СЁННЯ

| СОНЦА | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 7.42 | 18.08 | 10.26 |
| Віцебск — | 7.34 | 18.55 | 10.21 |
| Магілёў — | 7.31 | 18.57 | 10.26 |
| Гомель — | 7.27 | 17.55 | 10.28 |
| Гродна — | 7.58 | 18.21 | 10.23 |
| Брэст — | 7.54 | 18.27 | 10.33 |

**МЕСЯЦ**
**Першая квадра 19 кастрычніка**

**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Харыцыны, Пятра, Аляксія, Іоны, Філіпа, Ермагена.**
**К. Лукі, Яна.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, у заходніх раёнах пройдуць невялікія дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 10—12, Гродне, Мінску, Магілёве — 12—14, Брэсце — 13—15, Гомелі — 14—16 градусаў.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 19-га — па большай частцы тэрыторыі, 20-га — месцамі па рэспубліцы пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ўначы 19-га — 2—7, 20-га — 0—5, удзень — 8—13 градусаў цяпла.

# АСНОЎНЫЯ НАПРАМКІ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 1996—2000 ГАДЫ

## 1. АЦЭНКА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЙ СІТУАЦЫІ

На працягу апошніх двух гадоў намаганні кіраўніцтва краіны былі накіраваны на процідзеянне негатыўным працэсам у эканоміцы, выкліканым стратай знешніх сувязей і традыцыйных рынкаў, дэзарганізацыяй кіравання народнай гаспадаркай, што павялічыла неэфектыўнасць матэрыяла- і энергаёмістай вытворчасці.

Рэалізацыя асноўных напрамкаў і мэтавых установак сацыяльна-эканамічнага развіцця, вызначаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 студзеня 1996 г. № 36, дазволіла забяспечыць запавольванне тэмпаў эканамічнага спаду ў цэлым, зніжэнне інфляцыі, ажыўленне вытворчасці ў асобных галінах эканомікі і рэгіёнах, адносную стабілізацыю курса нацыянальнай валюты.

Так, за восем месяцаў 1996 года аб'ём валавога ўнутранага прадукту склаў 106,4 трлн. рублёў, што на 0,4 працэнта больш за адпаведны перыяд мінулага года, аб'ём прамысловай прадукцыі павялічыўся на 2,8 працэнта. Больш хуткімі тэмпамі развіваліся такія галіны прамысловасці, як лясная і дрэваапрацоўчая (прырост 11,3 працэнта), хімічная і нафтахімічная (прырост 10 працэнтаў). Павысіліся тэмпы жыллёвага будаўніцтва: у дзеянне было ўведзена ў 1,5 раза жылля больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Індэкс спажывецкіх цэн знізіўся з 5,6 працэнта ў студзені да 1,3 працэнта ў жніўні, сярэднямесячны індэкс за восем месяцаў 1996 года склаў 2,4 працэнта, у той час як у 1993, 1994, 1995 гадах ён складаў адпаведна 28,8; 28,7 і 10,8 працэнта.

Аднак у поўнай меры пераадолець крызісныя з'явы ў эканоміцы, якія назапасіліся з 1991 года, не ўдалося.

Назіраюцца зніжэнне жыццёвага ўзроўню большай часткі грамадзян, паглыбленне расслаення грамадства па даходах, высокі ўзровень скрытага беспрацоўя. Працягваюцца інвестыцыйны крызіс, зніжэнне рэнтабельнасці выпускаемай прадукцыі, разбурэнне навукова-тэхнічнага патэнцыялу, нарастанне ўзаемных неплацяжоў, зніжэнне цэнавай канкурэнтаздольнасці беларускіх тавараў. Узраслі адмоўнае сальда гандлёвага балансу і знешні доўг рэспублікі.

Пераадоленне крызісных з'яў у эканоміцы патрабуе правядзення мэтанакіраванай эканамічнай палітыкі, ажыццяўлення сістэмы ўзаемаўвязаных мер, накіраваных на макраэканамічную стабілізацыю і стварэнне перадумоў эканамічнага росту, пачынаючы з 1997 года.

## 2. ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ МАДЭЛЬ ЭКАНОМІКІ КРАІНЫ

Стратэгічнай мэтай сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў з'яўляецца павышэнне жыццёвага ўзроўню беларускага народа з паступовым набліжэннем яго дабрабыту да ўзроўню высокаразвітых еўрапейскіх дзяржаў. Гэта мэта можа быць рэалізавана шляхам пабудовы высокаэфектыўнай эканамічнай сістэмы, якая валодала б сучаснымі стымуламі да высокапрадукцыйнай працы, была б успрымальнай да навукова-тэхнічнага працэсу. Разам з тым, гісторыя краіны, традыцыі народа, яго менталітэт з абвостраным пачуццём сацыяльнай справядлівасці патрабуюць надання эканамічнай сістэме моцнай сацыяльнай накіраванасці. Гэтым патрабаванням адпавядае мадэль сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі, якая спалучае перавагі сучаснай высокаразвітой рыначнай гаспадаркі з забеспячэннем сацыяльнай справядлівасці і эфектыўнай сацыяльнай абароны грамадзян.

Сацыяльная арыентацыя рыначнай эканомікі прадугледжвае адсячэнне ад мадэлі чыстай рыначнай гаспадаркі яе найбольш негатыўных рыс, дазваляе змякчыць такія з'явы, як эксплуатацыя чужой працы, нізкая аплата працы многіх катэгорый работнікаў, беспрацоўе, сацыяльная дыферэнцыяцыя і інш. Яна ажыццяўляецца на аснове Канстытуцыі, усей сістэмы законаў пры актыўнай ролі дэмакратычнай прававой дзяржавы, дакладнага вызначэння яе функцый у рэфарміраванні і развіцці эканомікі.

У працэсе фарміравання новай эканамічнай мадэлі прадугледжваецца:

стварыць прававое забеспячэнне ўсяго комплексу рыначных пераўтварэнняў, асабістых правоў і свабод грамадзян;

ажыццявіць паэтапную лібералізацыю ўсіх формаў эканамічнай дзейнасці, забяспечыць свабоду прадпрымальніцтва;

пераўтварыць сістэму размеркавальных адносінаў, забяспечыць прыярытэтнае імкненне чалавека да прымнажэння асабістага дабрабыту сваёй працай;

стварыць сістэму моцнай сацыяльнай абароны;

ажыццявіць адзіны і роўны падыход да ўсіх формаў уласнасці;

стварыць канкурэнтнае асяроддзе і не дапускаць нядобрасумленнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання на рынку;

усямерна выкарыстоўваць перавагі ўнутрырэспубліканскага падзелу працы, спецыялізацыі і кааперацыі з улікам эканамічных і прыродных магчымасцей рэгіёнаў, стварэння найбольш спрыяльных умоў для жыццядзейнасці насельніцтва па ўсёй тэрыторыі краіны;

садзейнічаць рацыянальнаму міжнароднаму падзелу працы, які забяспечвае найбольш эфектыўнае прасоўванне беларускіх тавараў на сусветны рынак;

максімальна выкарыстоўваць выгаднасць геапалітычнага становішча краіны, развіваць эфектыўную сістэму абслугоўвання міжнародных транспартных артэрый і сувязей;

пераўтварыць сістэму дзяржаўнага рэгулявання сацыяльна-эканамічных працэсаў з пераводам яе на эканамічныя метады і захаваннем прамога кіравання ў тых сферах, дзе рыначная самарэгуляцыя неэфектыўная ці рыначныя крытэрыі прынцыпова непрымальныя;

сфарміраваць моцную фінансавую крэдытна-грашовую сістэму; здольную забяспечыць сацыяльна-эканамічную эфектыўнасць функцыянавання і развіцця народнай гаспадаркі;

стварыць перадумовы паскоранага тэхнічнага развіцця вытворчасці на аснове поўнага выкарыстання ўласнага тэхнічнага патэнцыялу, імпарту высокіх тэхналогій шляхам удасканалення механізма прыцягнення ўнутраных і знешніх інвестыцый у эканоміку краіны;

правесці глыбокую рэструктурызацыю і камерцыялізацыю дзяржаўных прадпрыемстваў (з індывідуальным падыходам да буйных і горадаўтваральных прадпрыемстваў), узмацніць маркетынгавую дзейнасць для эфектыўнага заваявання і ўтрымання рынкаў;

забяспечыць эканамічную бяспеку краіны, зыходзячы з прынцыпу мінімальнай самадастатковасці гаспадарчай сістэмы на перыяд выхаду з крызісу з наступным стварэннем сістэмы абароны нацыянальных эканамічных інтарэсаў.

## 3. МЭТЫ, ЗАДАЧЫ І ЭТАПЫ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РЭФАРМІРАВАННЯ І РАЗВІЦЦЯ

Дасягненне стратэгічнай мэты прадугледжвае праходжанне шэрага паслядоўных этапаў, якія вызначаюцца стартавымі ўмовамі, дынамікай развіцця эканомікі, пастаўленымі тактычнымі мэтамі і задачамі на сярэднетэрміновы і кароткатэрміновы перыяды.

Да 2000 года прадугледжваецца рэалізаваць два этапы.

Мэта першага этапа — макраэканамічная стабілізацыя і стварэнне ўмоў для аднаўлення эканамічнага росту. На гэтым этапе павінен быць спынены спад вытворчасці, забяспечана зніжэнне інфляцыі да ўмеранага ўзроўню, стабілізаваны курс нацыянальнай валюты. Гэты этап, паводле прагнозных ацэнак, будзе завершаны ў 1997 годзе.

Мэта другога этапа (пасля 1997 года) — аднаўленне эканамічнага росту. Ён будзе характарызавацца ўстойлівым уздымам вытворчасці на аснове эфектыўных з пазіцыі рыначных крытэрыяў сектараў і вытворчасцей эканомікі і стварэння новых кропак росту.

Сітуацыя, якая рэальна склалася ў эканоміцы рэспублікі, вызначае наступныя асноўныя задачы першага этапа:

спыненне тэндэнцыі зніжэння валавога ўнутранага прадукту (ВУП) і ўзроўню жыцця насельніцтва;

стварэнне дзейснага механізма стымулявання прадпрымальніцтва і дзелавой актыўнасці на аснове далейшага развіцця малога і сярэдняга бізнесу, камерцыялізацыі буйных прадпрыемстваў, забеспячэння ўмоў для прыцягнення прыватнага капіталу;

стварэнне дзейснага механізма інвесціравання эканомікі, у першую чаргу, стымулявання высокаэфектыўных інвестыцый;

прадухіленне ўцечкі капіталаў за мяжу;

правядзенне чэкавай, малой прыватызацыі, паскарэнне сярэдняй, актывізацыя рэфарміравання буйных і сярэдніх прадпрыемстваў, фарміраванне рынку нерухомай маёмасці;

умацаванне нацыянальнай валюты і зніжэнне інфляцыі да 1,5 - 0,5 працэнта ў месяц;

зніжэнне бюджэтных расходаў і змяншэнне падатковага прэса;

дасягненне збалансаванасці і забеспячэнне крэдытнай бяспекі краіны па знешняму доўгу шляхам утрымання і заваёўвання новых таварных рынкаў;

абарона і ўмацаванне становішча нацыянальных вытворцаў на ўнутраным і знешнім рынках на аснове мэтазгоднага пратэкцыянізму і стымулявання экспарту;

паляпшэнне фінансавага становішча прадпрыемстваў, пераадоленне крызісу неплацяжоў, стварэнне механізма санацыі і банкруцтваў;

падтрыманне важнейшых сістэм сацыяльнай сферы, прызначаных забяспечыць навукова-тэхнічны і сацыяльны прагрэс нацыі;

умацаванне інстытутаў дзяржаўнай улады, законнасці і правапарадку.

Задачамі другога этапа з'яўляюцца:

стабілізацыя прыросту ВУП на ўзроўні не менш чым 5 працэнтаў у год;

устойлівы рост узроўню жыцця насельніцтва рэспублікі;

актывізацыя працэсу структурнай перабудовы эканомікі на аснове навукаёмістых рэсурсазберагальных тэхналогій;

пашырэнне рынкаў збыту на аснове павышэння якасці і канкурэнтаздольнасці беларускіх тавараў, зніжэння выдаткаў вытворчасці;

рэалізацыя механізмаў трансфармацыі накапленняў у інвестыцыі і максімальна шырокае асваенне інвестыцый і інавацый у прыярытэтных галінах эканомікі.

Названыя мэты і задачы канкрэтызуюцца ў гадавых прагнозах сацыяльна-эканамічнага развіцця.

## 4. АСНОЎНЫЯ НАПРАМКІ ПЕРАЎТВАРЭННЯЎ У ЭКАНОМІЦЫ

Галоўным напрамкам рэфарміравання і развіцця эканомікі з'яўляюцца інстытуцыянальныя пераўтварэнні, рацыянальнае спалучэнне розных формаў уласнасці, стварэнне рыначнай інфраструктуры, структурная перабудова эканомікі, павышэнне яе навукова-тэхнічнага патэнцыялу.

### 4.1. СТРУКТУРНАЯ ПЕРАБУДОВА ЭКАНОМІКІ

Структурная палітыка на бліжэйшы і сярэднетэрміновы перыяды павінна забяспечваць усямернае развіццё прыярытэтных галін і вытворчасцей, якія вызначаюць інавацыйны, рэсурсазберагальны, эколагаахоўны і сацыяльна арыентаваны характар эканомікі.

Улічваючы абмежаванасць рэсурсаў і неабходнасць селектыўнага развіцця галін і вытворчасцей, у якасці «прыярытэтных» павінны выступаць экспартны сектар, які забяспечвае эканоміку валютай; рэфарміраваны аграрна-прамысловы комплекс з сумежнымі галінамі, што вырашае праблемы прадуктаў харчавання; комплекс галін, якія забяспечваюць жыллёвае будаўніцтва. На першым этапе рэсурсы будуць накіроўвацца перш за ўсё ў галіны, якія маюць вялікі патэнцыял, з кароткім цыклам вытворчасці і абароту, з хуткай аддачай укладзеных сродкаў. Яны павінны быць на першым этапе аб'ектам мадэрнізацыі вытворчага патэнцыялу з асобым акцэнтам на экспартаарыентаваныя вытворчасці. На другім этапе (з дасягненнем фінансавай стабілізацыі, наладкай механізма трансфармацыі накапленняў у інвестыцыі) аб'ектамі тэхнічнага пераўзбраення павінны быць галіны і вытворчасці з высокімі, навукаёмістымі і рэсурсазберагальнымі тэхналогіямі.

У якасці асноўных мер падтрымкі прыярытэтных напрамкаў вызначаны:

нарошчванне экспартнага патэнцыялу;

дзяржаўная падтрымка навукі, якая фарміруе інавацыйны патэнцыял структурных пераўтварэнняў, пераход да рэсурсазберагальнага тыпу ўзнаўлення;

развіццё навукаёмістых экспартных і імпартазамяшчальных вытворчасцей, нетрадыцыйных працэсаў перапрацоўкі сыравіны, вытворчасць высокапрадукцыйных машын і абсталявання, новых відаў канструкцыйных матэрыялаў, хімічных валокнаў і ніцей, традыцыйных і новых спажывецкіх тавараў галоўным чынам на базе мясцовай сыравіны і г. д.;

усямернае развіццё экспарту паслуг з улікам геапалітычнага фактару;

жыллё;

стварэнне магутнасцей будаўнічага комплексу на сучаснай тэхнічнай базе;

павышэнне долі эфектыўнай будаўнічай прадукцыі рознага прызначэння з мясцовых сыравінных рэсурсаў;

нарошчванне вытворчасці прамысловых тавараў народнага спажывання працяглага карыстання;

харчаванне;

фарміраванне якасна новай сацыяльна-эканамічнай структуры сельскай гаспадаркі, заснаванай на рацыянальным спалучэнні буйных, сярэдніх і дробных вытворчасцей, разнастайнасці формаў уласнасці і гаспадарання;

развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы захоўвання і транспарціроўкі прадукцыі аграпрамысловага комплексу (АПК);

апераджальнае развіццё вытворчасці харчовага збожжа, цукру і алею;

тэхнічнае абнаўленне і рэканструкцыя перапрацоўчых галін АПК;

пераарыентацыя прамысловасці на больш поўнае задавальненне патрэбнасцей АПК.

Для рэалізацыі асноўных напрамкаў структурнай перабудовы эканомікі рэспублікі прадугледжваецца ажыццяўленне сістэмы мераў прававога, арганізацыйнага, эканамічнага, навукова-тэхнічнага і сацыяльнага характару. Падрыхтаваны пералік важнейшых інвестыцыйных праектаў, накіраваных на структурныя пераўтварэнні эканомікі з адпаведнымі паказчыкамі.

Ажыццяўленне намечаных мераў павінна перавесці эканоміку рэспублікі ў новы якасны стан, які характарызуецца больш эфектыўнымі эканамічнымі структурамі, іх набліжэннем да аналагаў эканамічна развітых краін.

### 4.1.1. ПАВЫШЭННЕ ЭФЕКТЫЎНАСЦІ ФУНКЦЫЯНАВАННЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ

Рэфарміраванне эканомікі, рэструктурызацыя адносінаў уласнасці (перавод адной яе формы ў іншую) не з'яўляецца аднаразовым актам. Таму буйны (хоць ён і паступова змяншаецца) дзяржаўны сектар у эканоміцы краіны будзе існаваць многія гады. У любым выпадку ў дзяржаўнай уласнасці застануцца прадпрыемствы і вытворчасці, што задавальняюць тыя грамадскія патрэбнасці, якія не пад сілу чыста рыначным механізмам (буйныя перспектыўныя структурныя зрухі, што патрабуюць канцэнтрацыі вялікіх капіталаў і агульнанацыянальнай каардынацыі). У сувязі з гэтым жыццёва важнай праблемай з'яўляецца забеспячэнне эфектыўнага функцыянавання дзяржаўных прадпрыемстваў. Яно ўключае такія ключавыя напрамкі, як:

рэфарміраванне дзяржаўных прадпрыемстваў (прававое раздзяленне іх на казённыя, камерцыялізаваныя і прыватныя);

перабудова ўнутранай структуры прадпрыемстваў з узмацненнем функцый менеджменту, маркетынгу і г. д. для адаптацыі да рыначнага асяроддзя, якое развіваецца;

тэхналагічнае абнаўленне прадпрыемстваў, пераход на высокія навукаёмістыя тэхналогіі.

Казённыя прадпрыемствы знаходзяцца пад прамым дзяржаўным кіраваннем. Дзейнасць камерцыялізаваных (з кантрольным пакетам акцый у дзяржавы) прадпрыемстваў рэгулюецца па параметрах эфектыўнасці ва ўмовах рынку.

Прадпрыемствы, якія перайшлі ў прыватны сектар, працуюць у рыначным асяроддзі (у выпадку працяглай неэфектыўнай работы статус прыватных прадпрыемстваў можа быць перагледжаны).

Прадугледжваецца стварэнне ў 1997 годзе дакладнай сістэмы кіравання дзяржаўнымі прадпрыемствамі з вызначэннем статусу казённых прадпрыемстваў і іх пераліку, а таксама дапрацоўка нарматыўных дакументаў па карэкціроўцы механізма іх гаспадарання з мэтай надання ўстойлівасці ў рабоце.

Рэзервам павышэння эфектыўнасці дзяржаўнага прадпрыемства з'яўляюцца забеспячэнне працоўнай і вытворчай дысцыпліны, устанаўленне адміністрацыйнай і эканамічнай адказнасці за вынікі работы.

### 4.1.2. РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЕ І ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

Важным звяном эканамічнай рэформы з'яўляюцца раздзяржаўленне і прыватызацыя (рэспубліканскай і камунальнай) дзяржаўнай уласнасці.

Раздзяржаўленне (акцыяніраванне і камерцыялізацыя) у шырокім сэнсе накіравана на аддзяленне функцый кіравання ад функцый валодання. У вузкім сэнсе раздзяржаўленне — стварэнне адкрытых акцыянерных таварыстваў або іншых формаў акцыяніравання на базе дзяржаўнай маёмасці — выкарыстоўваецца пераважна для рэфарміравання буйных дзяржаўных прадпрыемстваў у пераходны перыяд.

Галоўная мэта прыватызацыі заключаецца не ў фармальным пераразмеркаванні ўласнасці, а ў павышэнні эфектыўнасці вытворчасці і стварэнні канкурэнтнага асяроддзя, актывізацыі інвестыцыйнай і інавацыйнай дзейнасці, уключаючы прыцягненне замежных інвестыцый. Таму механізм яе павінен прадугледжваць не проста выкуп дзяржаўнай маёмасці, а перш за ўсё ўкладанне сродкаў у гэту маёмасць у мэтах мадэрнізацыі вытворчасці і стварэння рабочых месцаў. Усё гэта азначае, што прыватызацыю трэба ажыццяўляць праз адкрытыя конкурсы або аўкцыёны біз-


**(Працяг на 2-й стар.)**

